

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№196 (709) 7 кастрычніка 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.


*Афіцыйна*

## Пасяджэнне Савета бяспекі

**Пад старшынствам Станіслава Шушкевіча 5 кастрычніка 1993 года адбылося чарговае пасяджэнне Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь.**

Абмеркаваны праблемы ўзмацнення барацьбы са злачыннасцю. Вызначаны канкрэтныя меры па паляпшэнню работы праваахоўных органаў, прыярытэты па ўдасканаленню прававой асновы барацьбы са злачыннасцю.

Члены Савета прааналізавалі ход скарачэння і рэфарміравання Узброеных Сіл рэспублікі, парадак вываду стратэгічных войск Расійскай Федэрацыі з тэрыторыі рэспублікі. Падкрэслена неабходнасць хутчэйшай ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь дасягнутых у гэтай галіне пагадненняў з Расійскай Федэрацыяй.

На пасяджэнні разгледжаны іншыя пытанні, што адносяцца да кампетэнцыі Савета бяспекі.

**Белінфарм.**

*Парламент: а што "за кадрам"?*

## Жорсткая размова

### адбылася ўчора паміж прадстаўнікамі апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і спікерам беларускага парламента Станіславам Шушкевічам

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

А прычынай для сустрэчы дэпутатаў-апазіцыянераў з кіраўніком нашай дзяржавы паслужыў іх зварот да Станіслава Шушкевіча з патрабаваннем, каб ён скарыстаў сваё канстытуцыйнае права і склікаў нечарговую сесію Вярхоўнага Савета Беларусі. Чаму апазіцыя лічыць такі крок Старшыні Вярхоўнага Савета неабходным? Таму што, на іх думку, у Беларусі склалася такая ж сітуацыя, як і ў жніўні 1991 года. Пэўныя арганізацыі, шэраг дэпутатаў, некаторыя партыі і рухі, а таксама ўрадавыя асобы засведчылі сваю пазіцыю. І пазіцыя гэта — жаданне ліквідаваць Беларусь як незалежную дзяржаву. Нечарговая сесія Вярхоўнага Савета патрэбна, каб прыняць рашэнне аб датэрміновых выбарах у вышэйшы заканадаўчы орган рэспублікі, аб стварэнні кааліцыйнага ўрада.

— Тая актыўная работа па знішчэнню беларускай дзяржаўнасці, якую праводзіць Вячаслаў Кебіч, падтрымліваецца вамі, вашай пасіўнасцю, — прама заявіў Станіславу Шушкевічу лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк. — Саўмін стварыў нелегітымныя структуры, ён прымае пастановы, якія парушаюць нашы законы, ён наогул ігнаруе Прэзідыум Вярхоўнага Савета, а вы нічога не прадпрымаеце! З кожным днем вы губляеце свае магчымасці ўздзейнічаць на сітуацыю ў Беларусі, губляеце падтрымку людзей!

Станіслаў Шушкевіч катэгарычна не пагадзіўся з такой ацэнкай сваёй дзейнасці і дзейнасці ўрада. Ён заявіў, што няма больш простай задачы, як даць заданне Старшыні Вярхоўнага Савета выканаць тое, што павінны зрабіць самі ініцыятары склікання нечарговай сесіі. На думку Станіслава Шушкевіча, нечарговая сесія не будзе паспяховай, бо не падрыхтаваны яшчэ неабходныя законапраекты, дакументы. Адбудзецца толькі яшчэ адна безвыніковая дыскусія.

— Заўтра можа быць позна! — заявілі прадстаўнікі апазіцыі Станіславу Шушкевічу. — За тыдзень-два нашы "анпілаўцы", "хасбулатаўцы" адсядзяцца і пачнуць наступленне. І вы будзеце перад імі безабаронным!

— Прадстаўце матэрыялы, што можна склікаць нечарговую сесію і яна прынясе карысць, — адказаў ім Станіслаў Шушкевіч. — І тады я склічу сесію, а пакуль што...

А пакуль што апазіцыя і спікер не знайшлі агульнай мовы. Хто з іх мае рацыю — пакажа час.

*Слова рэдактара*

## Чэсць і бясчэсце

**На мой адрас у газету прыходзіць шмат пісьмаў ад чытачоў, якіх хвалююць глабальныя пытанні нашай рэчаіснасці. Людзі ўстрывожаны, яны з горыччу пішуць аб тым, што жыццё становіцца ўсё больш складаным, гарады захліствае злачыннасць, што ўлада часам бывае бяздушнай да простых людзей.**

**Горка чытаць такія пісьмы. Разважаючы над імі, прыходзіш да высновы, што першапрычынай многіх агідных з'яў стала не нейкая прыўнесеная звонку напасць, а духоўнае ўбоства ды і проста несумленнасць тых, хто па абавязку службы павінен наводзіць парадак, рабіць жыццё чысцейшым.**

**У нашым нядаўнім мінулым было шмат рознага, у тым ліку і нядобрага. Але пры ўсім тым у маёй памяці засталіся сустрэчы з многімі людзьмі, дарэчы, і высокага рангу, для якіх самым галоўным у жыцці паняццем было слова чэсці. Яно прымушала іх шмат працаваць, быць бязлітасным да сябе, рана адбірала жыццё і пакідала светлую памяць.**

**Зараз такіх людзей сярод начальнікаў, на жаль, няшмат. Затое майстроў прыгожа гаварыць і імітаваць кіпучую дзейнасць хоць адбаўляй. А лепш за ўсё ў іх атрымліваюцца інтрыгі, умеюць яны ў выпадку чаго адмовіцца ад асабістых слоў, перакінуць віну з хворай галавы на здаровую. На што толькі не ідуць яны часам, ратуючы ўласную шкуру!**

**Аб усім гэтым мне падумалася, калі я ўбачыў нечаканы "рэзананс" з прычыны майго інтэрв'ю ў "Народнай газеце" са Старшынёй Вярхоўнага Савета С.Шушкевічам. Адначасова на маім стале апынулася заметка з міліцэйскай газеты "На страже", падпісаная дзяржаўным сакратаром па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы Г.Данілавым, і яго ж пісьмовая заява на мой адрас.**

**Пытанне сур'ёзнае, і я павінен нагадаць чытачам сутнасць справы. Не так даўно ў мяне адбылася размова з Г.Данілавым. У хуткім часе яна прыняла вельмі востры характар. У прыватнасці, Генадзь Ільіч заявіў тады, што С.Шушкевіч, маўляў, не чысты на руку, даставіўшы з Кітая атрыманы ім у падарунак у час афіцыйнага візіту мэблевы гарнітур. Мяне, прызнацца, гэта абурыла, і я сказаў субяседніку, што абавязкова высветлю дакладнасць гэтага факта. Для мяне як для рэдактара гэта было тым больш важна, што "Народную газету" сёй-той папракае ў "асаблівых сімпатыях" да Старшыні Вярхоўнага Савета. Але для мяне заўсёды і ва ўсім галоўным была аб'ектыўнасць у адносінах да любога чалавека. Вось таму я і вырашыў адкрыта і публічна паразмаўляць з С.Шушкевічам.**

**Адна справа даказаны факт, і я сам для сябе павінен зрабіць пэўныя вывады, іншая — запушчана злая плётка, і тыражыруе яе не хто-небудзь, а чалавек, які як бы ўвасабляе ва ўрадзе ўсе нашы праваахоўныя органы.**

**С.С.Шушкевіч, як адзначалася ў інтэрв'ю, катэгарычна адвергнуў гнюсную выдумку, ад каго б яна першапачаткова ні зыходзіла, і ўсумніўся ў маральным праве Г.Данілава займаць такі высокі і спецыфічны пост.**

**І вось адказ Г.Данілава: "Сапраўдным заяўляю, што ніколі, ні пры якіх акалічнасцях я не вёў з Вамі падобнай размовы". І як сёння заведзена, абяцанне звярнуцца ў суд.**

**Ну і ну! Пра ўсё мог падумаць, акрамя толькі аднаго: што дзяржаўны сакратар Г.Данілаў так лёгка і цынічна адмовіцца ад сваіх слоў. Бо гутарылі два сур'ёзныя дарослыя чалавекі, два народныя дэпутаты, адзін з якіх — адказны работнік урада. І размова ж ішла не пра дробязі, а пра маральнае аблічча кіраўніка, аб праве на давер. І раптам — я не я і шапка не мая...**

**Як жа так, Генадзь Ільіч? Няўжо мне трэба было мець пры сабе двух сведак-панятых ці ўключаць дыктафон? А можа, трэба было браць з Вас нейкую распіску? Бо Вы, здаецца, да ўсіх Вашых высокіх пасад яшчэ і афіцэр, палкоўнік. Няўжо Вы нічога не чулі пра такое простае слова — чэсць?**

**А можа, і не чулі? Хто ведае. Можа, Вы наогул хутка станеце сцвярджаць, што ніколі і ні пры якіх акалічнасцях са мной не сустракаліся? Мяне Вы ўжо не здзівіце, але многія людзі, якія былі сведкамі шэрагу нашых размоў, будуць здзіўлены Вашай "спрытнасцю" і "ўменнем" нанесці "ўдар у адказ". Вось таму мяне пацешыла Ваша пагроза звярнуцца ў народны суд. Чэснае слова, будзе вельмі цікава паглядзець Вам у вочы і паслухаць, што Вы яшчэ прыдумаеце. За гэта ніякіх грошай не шкада.**

**Шкада толькі, што бясчэсце сёння стала звычайнай нормай паводзін для многіх, у тым ліку высокіх дзяржаўных асоб. Калі вялікаму начальніку нічога не варта напляткарыць, а потым адмовіцца ад сваіх слоў, дык чаго можна чакаць ад простых смертных? Можа, толькі апатыі, нявер'я ні ўва што, непавагі да ўлады, якую людзі міжволі мераюць па такіх яе прадстаўніках, як аўтар заявы на мой адрас, ён жа... аўтар заметкі на гэтую ж тэму ў газеце "На страже"? Вось што самае страшнае ва ўсёй гэтай непрыгожай гісторыі.**

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар "Народнай газеты", народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

## ФАКС

### Вкратце

**Тенденции в политической и экономической жизни Беларуси прозондировал на встрече в Государственном комитете республики по внешним экономическим связям советник по финансам и бюджету посольства Франции в Москве господин Жерар Кремер.**

Полученная им информация будет передана в Париж и станет ориентиром для деловых кругов этой страны в установлении сотрудничества с белорусскими производителями.

❑

**Специальная программа по изучению белорусского языка разработана на высших курсах КГБ Беларуси.**

Преподавать родной язык офицерам государственной безопасности будут известные в республике языковеды.

❑

**Между руководством Белтелерадиокомпании и радиостанции "Немецкая волна" проведены переговоры о взаимном сотрудничестве.**

Немецкая сторона предложила подготовку для трансляции по Белорусскому телевидению пять раз в неделю своих информационных программ.

❑

**Совет Министров Беларуси внес в Президиум Верховного Совета республики предложение о назначении Евгения Войтовича Чрезвычайным и Полномочным Послом Беларуси в Литовской Республике, а также о присвоении ему соответствующего дипломатического ранга.**

В настоящее время Евгений Войтович, как известно, занимает пост министра культуры республики.

❑

**С первого октября нынешнего года для студентов Беларуси введена специальная 5-процентная льгота в междугородных автобусах.**

Действует она только по субботам и воскресеньям.

❑

**Две зажженные сигнальные шашки бросили вчера ночью на территорию посольства России в Токио боевики одной из японских ультраправых организаций.**

Как стало известно, ущерб зданию не нанесен, пострадавших нет.

**Госкомитет по обороне Кыргызстана принял решение в качестве превентивных мер в связи с московскими событиями 3—4 октября об усилении охраны военных объектов, военной техники и складов с оружием.**

Во все воинские части Вооруженных Сил Кыргызстана дана директива в случае возможного нападения без предупреждения открывать огонь на поражение.

*Москва, 6 октября...*

### Обильный роковой урожай

#### Передает специальный корреспондент "Народной газеты" Леонид ФАДЕЕВ

**Последние баррикады убраны вчера с улиц столицы России.**

Роковой урожай пожинают россияне в результате "второй октябрьской социалистической революции". С каждым часом данные о погибших дополняются. Еще не все трупы вывезены из "Белого дома", оцепление которого войсками МВД пока не снято. По ночам продолжает действовать комендантский час, в период которого вчера разоружены десятки членов бандформирований, задержанных в разных районах города. По сведениям столичного управления здравоохранения, количество госпитализированных с огнестрельными ранениями и серьезными травмами достигло почти 600 человек. Кстати, в одной из горбольниц с серьезным ранением находится 23-летний белорус из Брестской области, оказавшийся в числе штурмовавших "Останкино" 3 октября... Ущерб, нанесенный мятежниками, исчисляется десятками миллиардов рублей. Указом Б.Ельцина создан единый фонд при Минфине России по ликвидации разрушений в зданиях и сооружениях. Цитадель советской власти — "Белый дом" — отныне станет резиденцией российского правительства. А Юрий Лужков объявил себя единым хозяином здания Моссовета. Все помещения, ранее занимаемые депутатами, закрыты, опечатан пресс-центр.

❑

Президент России Борис Ельцин своим указом объявил 7 октября — день похорон граждан России, погибших при пресечении вооруженной попытки государственного переворота 3—4 октября, — Днем траура.

❑

В штабе по координации действий силовых министерств РФ по ликвидации последствий попытки государственного переворота сообщили, что лидеры консервативной оппозиции Виктор Анпилов (Трудовая Россия) и Илья Константинов (Фронт национального спасения) еще не задержаны и находятся в розыске.

❑

Председатель Конституционного суда России Валерий Зорькин готов подать в отставку со своего поста. Как стало известно из информированных источников, об этом он сообщил вчера утром в телефонном разговоре с руководителем администрации президента Сергеем Филатовым.

❑

Прокуратура Москвы вынесла постановление об освобождении 59 человек, задержанных правоохранительными органами в ходе событий 3—4 октября в Москве. Как сообщил старший помощник прокурора Москвы Владимир Гончаров, среди задержанных находились бывшие народные депутаты Сергей Бабурин, Вячеслав Любимов, Сергей Друганов, бывший заместитель председателя Моссовета Юрий Седых-Бондаренко, бывшие депутаты Моссовета Александр Цопов и Виктор Кузин.

### А танк купить можно?

**Выставку-продажу высвобождаемого в результате сокращения белорусской армии военно-технического имущества в местечке Колосово под Минском решено продолжить до первых зимних холодов.**

Выставка хоть и расположилась под открытым небом, но, несмотря на это, привлекла большое внимание государственных и коммерческих предприятий республики.

Именно потому и решили военные торговать, что называется, до упора. Хорошо, что армейского товара — хоть отбавляй.

### Пассажиров снова "радуют"

**С 6 октября в 1,7 раза увеличен тариф на проезд в автотранспорте междугородного сообщения.**

Как сообщили в ПО "Минскпассажиравтотранс", отныне километр пути в мягком автобусе обойдется гражданам в 12 рублей (вместо прежних семи). За проезд в жестком придется выкладывать по 10 рублей против недавних шести за километр.

**Сергей РАСОЛЬКО.**

### ...Прислуживаться тошно?

**По подсчетам Жлобинского военкомата, примерно 10 процентов юношей отказываются служить в армии.**

В нынешнем году военный комиссариат возбудил через прокуратуру 12 дел в отношении молодых людей, не пожелавших выполнять Закон "О всеобщей воинской обязанности и военной службе".

**Анатолий НИКОНОРОВ.**

### Спорт-экспресс

В первенстве МХЛ хоккеисты минского "Тивали" у себя на площадке победили рижскую "Пардаугаву"—2:1.

❑

Матч на первенство мира по шахматам между Анатолием Карповым (Россия) и Яном Тимманом (Голландия) будет продолжен в этом месяце в столице Индонезии.

❑

Вчера американский супербаскетболист Майкл Джордан объявил о своем решении уйти из большого спорта.

Главная причина ухода — тяжелая моральная травма после убийства его отца.

### Российский рубль потянуло в "Комплекс"

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
| --- | --- | --- |
| Доллар США | 2720 | 2855 |
| Немецкая марка | 1665 | 1760 |
| Английский фунт | 3775 | 4001 |
| Финская марка | 433 | 459 |
| Французский франк | 442 | 459 |
| Российский рубль | 1,9 | 2,1 |

**За минувшую неделю доллар в Беларуси подорожал на 300 белорусских рублей.**

По мнению специалистов, на этой неделе в республике особых скачков курса валют не предвидится, хотя и не исключено, что "зеленые" могут отреагировать на ситуацию в Москве, но рост, например, доллара будет незначительным.

**Антон ЧЕКОВ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Взгляд*

## Коалиционное правительство: блеф или реальность?

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, народный депутат Республики Беларусь**

Используя классическое определение идеолога и практика большевизма В.И.Ленина, нынешнюю ситуацию в Беларуси можно охарактеризовать следующим образом: бюрократическая номенклатура уже не может управлять страной, а демократические силы еще не готовы взять власть.

В этих условиях идея создания коалиционного правительства на переходный период (ближайшие год-полтора) может рассматриваться как вполне реальная. Правда, до сегодняшнего дня коалиционное правительство мыслилось как правительство политических сил, стоящих пусть на широкой, но достаточно близкой платформе и имеющих устойчивую социальную базу в обществе. То есть подразумевалась внутренняя коалиция или "красных", или "белых".

Это следствие того, что в республике налицо обилие политических партий, движений, но отсутствует сложившаяся классическая многопартийная система, того, что политические симпатии и антипатии общества по-прежнему определяются исключительно его отношением к коммунизму.

Такой подход все же не учитывает реальной расстановки политических сил в республике, превращает саму идею коалиционного правительства в предмет политических спекуляций. Понятно, что ни одна из противоборствующих сторон не уступит добровольно место на политическом Олимпе. На практике это означает всевозможные изощрения в поисках ответа на вопрос, поиски виновных, дальнейшее сползание в бездну экономической катастрофы, обострение политического кризиса, нарастание конфронтации в обществе.

На мой взгляд, идея коалиционного правительства может иметь успех только в том случае, если будет рассматриваться и реализовываться как компромисс. Компромисс между партией власти (государственной номеклатурой), во многом исчерпавшей свои возможности по созданию государственности, реформированию общества, экономики, не уберегшей от инфляции свой авторитет, потерявшей народное доверие, и демократической оппозицией, имеющей мозги, рыночное мышление, интеллект, не задавленный стереотипами, способной мыслить и решать на макроуровне, а не выпускать всю энергию на латание дыр.

Возникает много вопросов, которые требуют ответа. Например, что необходимо, чтобы компромисс, то бишь коалиционное правительство, состоялось? Политическая воля, жесткое выполнение принятых договоренностей, наличие определенных гарантий.

Каков принцип формирования нового правительства?

Одна треть министров нынешнего правительства (включая силовые министерства) сохраняет свои портфели. Остальные места отдаются представителям политических партий, движений, деловых кругов, влиятельных общественных организаций. Естественно, что экономические министерства должны возглавить рыночники-реформаторы.

Что получает каждая из сторон?

Партия власти оставляет за собой возможность влиять на принятие государственных решений, получает индульгенцию за допущенные ошибки, просчеты (если, конечно, речь не идет о криминале). Материальное поощрение для отдельных ее членов за добровольный уход "на заслуженный отдых" (для государства это будет очень дешевый, а главное, эффективный вариант). У демократической оппозиции появится возможность подняться на качественно новый уровень, позволяющий перейти к реальному влиянию на будущее страны, сменить затянувшийся митинговый стиль работы, через работу провести самоочищение, на деле доказать преимущество демократии.

Вне всякого сомнения, идея коалиционного правительства имеет немало недостатков. Конечно же, в условиях кризисного управления предпочтительнее однородное правительство, правительство-команда, состоящее из людей, хорошо понимающих друг друга. Но это в идеале. А мы должны четко понимать, что в обществе есть и другие силы, которых никто не вправе отлучать от реформы. А значит, коалиционное правительство "красных" и "белых" — это не блеф, это возможная реальность.

*Обращение совета Брестского облсельстроя к Верховному Совету Республики Беларусь*

## Чтобы не сорваться в пропасть...

Уважаемые народные депутаты!

В результате необдуманной политики, проводимой органами власти, и неудовлетворительной работы высшего руководства Республики Беларусь народное хозяйство оказалось на краю пропасти. Полный развал политических, экономических и других связей со странами СНГ, распад финансово-кредитной системы республики, невозможность свободного приобретения или продажи материальных ресурсов привели к неудержимому падению уровня производства, росту безработицы, обнищанию населения. Особенно в тяжелейшем положении оказались жители белорусского села, условия труда и проживания которых значительно ухудшились, а сокращение производства животноводческой продукции достигло катастрофических размеров.

Большие надежды возлагали труженики села на Закон Республики Беларусь "О приоритетном социально-культурном и экономическом развитии села и агропромышленного комплекса". Однако принятый Верховным Советом закон не внес оживления в сельское хозяйство, так как его положения не выполняются. В результате состояние сельскохозяйственного производства еще более обострилось. Из-за отсутствия денежных средств многие колхозы, совхозы и созданные фермерские хозяйства оказались на грани банкротства. На селе значительно сократилось строительство жилья, объектов соцкультбыта, инженерного обеспечения.

Ввиду катастрофической нехватки бензина, дизтоплива под угрозой срыва находятся уборка основных сельскохозяйственных культур и подготовительные работы под урожай будущего года, что чревато непредсказуемыми последствиями. Отсутствие запасов топливно-энергетических ресурсов может привести к остановке всего народного хозяйства республики предстоящей зимой.

Считаем, что в этих сложнейших условиях руководство республики не предпринимает решительных шагов по улучшению положения, всячески стараясь уйти от ответственности за допущенный провал в экономике. В связи с этим совет Брестского облсельстроя просит вас решительно вмешаться и незамедлительно разобраться в сложившейся ситуации и принять срочные меры по стабилизации всей экономики республики.

Для этого предлагаем:

1. Срочно созвать внеочередную чрезвычайную сессию Верховного Совета Республики Беларусь для рассмотрения и решения следующих вопросов:

- об отставке руководства Республики Беларусь (тт. Шушкевича С.С., Кебича В.Ф., Богданкевича С.А.) за допущенный кризис в экономике республики;
- о выборах и назначении нового руководства Республики Беларусь;
- о неотложных мерах по обеспечению республики топливно-энергетическими ресурсами в III квартале 1993 г. и в I квартале 1994 г.;
- о ратификации договоров о новой рублевой зоне и экономическом союзе с Российской Федерацией и другими странами СНГ;
- об отмене принятого Национальным банком и Советом Министров Республики Беларусь постановления о введении курса белорусского безналичного рубля;
- о введении на территории республики с 1 октября 1993 г. курса безналичного российского рубля как единственной валюты Республики Беларусь. Принять решение о введении до 1.01.94 г. наличного российского рубля и прекращении хождения казначейских билетов Национального банка Республики Беларусь;
- о приведении налогового, таможенного, денежно-кредитного законодательства Республики Беларусь в соответствие с законодательством Российской Федерации на основании договоров о новой рублевой зоне и экономическом союзе с Россией;
- об отмене таможенного и пограничного контроля на границе Республики Беларусь и РФ;
- об отмене налогов и лицензий на экспорт и импорт товаров с РФ;
- о создании конфедерации независимых государств Европы и Азии как политического и экономического союза бывших республик СССР;
- о назначении сроков досрочных выборов Верховного Совета Республики Беларусь.

Обращаемся к работникам агропромышленного комплекса, всем сельским строителям республики с призывом поддержать наше обращение.

*Тема дня*

# Конечная остановка всех революционеров — Лефортовская тюрьма...

**Павел ЯКУБОВИЧ**

Печальное зрелище представляли собой низверженные вожди военного мятежа бывший спикер Всея Руси Хасбулатов, Руцкой и Макашов, когда шли, как бараны на убой, покинутые всеми, сквозь пятнистый строй спецназовцев из "Альфы". Да и знаменитый оратор-громитель Челноков, бежавший вприпрыжку к спасительному автобусу, тоже выглядел жалко и комично. Эти молодцы среди овец если и вызывали какие-то чувства, то лишь недоумение: как могли эти титаны слова и пигмеи дела организовать кровавое побоище, как они умудрились взгромоздиться на шею российской чудо-тройке и галопом погнать ее в пропасть?

Глядя, как дежурный офицер страшной Лефортовской тюрьмы привычно-непочтительно повел Руцкого "на вокзал" — так на тюремном жаргоне зовется "приемное отделение" (а там предстоит унизительная процедура "шмона": "Гражданин, снимите трусы, наклонитесь, раздвиньте ягодицы" — фу-у...), я ужаснулся самой что ни на есть примитивной мысли:

— Ну зачем ему, обласканному невероятной карьерой, недавнему рядовому офицеру, все это было нужно? Ему-то чего не хватало? Работал бы тихо с Ельциным, пользовался заслуженными благами. Нет же, изо всех сил рвался поперед батьки в пекло. И дорвался.

Тем читателям, которые возмутятся и скажут, что в силу каких-то глубоких идейных причин Руцкой не мог работать с Ельциным и потому пренебрег "благами" и бросился за народ на амбразуру, могу ответить следующее. Никакой Руцкой не невольник чести и не идеалист Гриша Добросклонов. Самый заурядный карьерист. Да еще и не очень умный. Так и не смог разобраться, что, используя слабинку, его умело бросают на гвозди более хитрые и изощренные: дескать, как ты, боевой генерал, можешь подчиняться такому ничтожеству, как президент? Да у тебя, гения и красавца, это получится гораздо лучше. И у Руцкого, этого поручика Ржевского, настолько закружилась головка, что он даже позволял себе публично подискутировать с Гайдаром о запутанных вопросах экономики — не о летном деле, не о технике пилотирования, а об экономике! И еще одна деталь царапнула, хотя ничего нового не добавила к групповому портрету бездарной карикатуры на Робеспьера. Оказалось, что Руцкой и Хасбулатов, пока гремела начатая ими "народная революция", тихонечко завезли в "Белый дом" своих родственников и вовсю вели переговоры об исчезновении в Бельгию. И это после всех криков о намерении "живыми не покидать "Белый дом"! Проигравшиеся в кровавый покер политиканы хоть и ваяли из самих себя бюсты героев, но по сравнению с Пуго и Ахромеевым оказались слабаками... Что ж, сейчас они изопьют до конца заваренную ими же чашу позора и унижения. Правда, все это не станет утешением для матерей молоденьких солдат, которые завтра-послезавтра получат в своих Березовках и Сосновках вместо здоровых и румяных сыновей серые цинковые гробы.

Что изменится в России после 4 октября?

Думаю, что там ни у кого нет оснований хлопать в ладоши. Есть победа, но нет победителей. Россия вновь в проигрыше. Насилие — эта повивальная бабка зла — несомненно, еще неоднократно аукнется в жизни больного государства. Сегодня не все так просто и ясно, как это казалось после августа 1991 года. Жаль, если опять пар уйдет в свисток. Сегодня от правительства потребуются не декларативные, а настоящие действия. Если не будут выкорчеваны злокачественные гнойники вроде "культурно-просветительных обществ" типа отрядов Баркашова и красных анпиловских погромщиков, если на высоких государственных постах останутся люди типа Тулеева, то в самое ближайшее время Россию ожидают новые потрясения. И найдется очередной судья Уколов, который сделает все, чтобы сегодняшние насельники Лефортова, как и бывшие узники "Матросской тишины", могли иметь возможность всласть поиздеваться над правосудием и потихонечку перейти в разряд мучеников и героев. И объявится очередной прокурор Степанков, всегда готовый возбудить уголовное дело против любой побежденной стороны — поразительный по жизнестойкости тип российского "юриста". Таких "прокуроров", а также конституционалистов зорькиных и нуворишей илюмжиновых в России достаточно. Сейчас они поджали хвост, но стоит подуть новому ветру, и они еще дадут о себе знать.

Но вот что несомненно. Сегодня в Москве нет организованной силы, которая помешала бы Гайдару, Чубайсу, Федорову и Шохину всерьез взяться за упрочение рыночных отношений. Плохо это или хорошо, но уже завтра Россия двинется в путь, сдав в архив социалистическую политэкономию вместе с госпланом, колхозами и прочим. Рухнут всевозможные "Советы", нечего будет делить всемогущим председателям облисполкомов, объявят о банкротстве разного рода захребетники. Сегодня, повторяю, нет силы, которая может помешать этому процессу. Вы сами увидели, что стоит принципиальность так называемых субъектов Федерации, которые, услышав, как прокуковала московская кукушка, быстренько переметнулись в лагерь победителей и ради собственного благополучия не позволят себе ни слова против целеустремленного московского правительства.

В свете всего этого меня озадачивают потемки политической жизни Беларуси. Те, кто месяц назад кричал о немедленном сближении с Москвой, сегодня оказались у разбитого корыта. Вчерашние их собеседники и "партнеры" по переговорам либо в камерах, либо в бегах. Гайдар и Федоров за занятостью российскими делами вряд ли будут разводить турусы с представителями парламентских фракций "Беларусь" либо "Союз". И Ельцин со своим верным визирем Бурбулисом и зорким Филатовым тоже вряд ли оценит скромность и выдержанность руководителей нашего государства, высказавших свое отношение к событиям в Москве значительно позже датского королевства и чуть раньше княжества Лихтенштейн...

Но, это, конечно, не главное. Это лишь детали, свидетельствующие о том, что спасительное умение отсидеться "в камышах" на этот раз выглядело не проявлением мудрости, а дилетантством. Оно свидетельствует прежде всего о том, что среди советников высшего государственного руководства доминируют недалекие, политически неразвитые люди и отнюдь совсем не философы, хотя и с дипломом докторов наук. "Советы" этих советников уже привели к целой череде недоразумений, которые не раз ставили в двусмысленное положение В.Ф.Кебича. Но в будущем ставка на советы и политическую ментальность бывших идеологов застоя еще более чревата. В свое время эти "советчики" довели до краха небезызвестное ведомство тов. Малофеева и самого Ивана Полозкова, сейчас они тянут в дебри наше правительство. Но и это не главное. "Советники" — дело наживное, в конце концов, всегда можно найти нормальных, порядочных людей. Было бы желание. Проблема заключается в том, что если Беларусь продолжит свою политическую и экономическую линию на сохранение бесхребетной "памяркоўнасці" и "здорового консерватизма", при котором спад промышленного производства будет неуклонно возрастать, а бензин придется покупать не в бензоколонках, а у "леваков", то совсем скоро народу придется жить одними воспоминаниями о сытом прошлом. Выход ясен: он в немедленном переводе промышленности и сельского хозяйства на рыночные, безо всяких идеологических шпал, рельсы. Но кто у нас в верхах на это способен? Кто из министров проявил себя не начальником "штаба" отрасли, а настоящим поборником рыночной модели? А много ли генералов индустрии, директоров крупнейших заводов государства попробовали найти какой-то иной выход из кризиса, кроме "выбивания" льготных кредитов в Национальном банке? Все ли председатели облисполкомов всерьез открыли шлюзы предприимчивости и инициативе, взяв на себя смелость льготного налогообложения подлинных предпринимателей хотя бы в пределах своей компетенции? Зато я знаю множество солидных, с сединами, ответственных товарищей, которые до сих пор не понимают, что происходит, из которых палкой не выбьешь убеждения в том, что если прижмет, то надо взять чемодан "Зубровки", поехать в Москву, где обласкают и помогут. Эти административные фантазеры уже не обеспечат нас ни бензином, ни сталью, ни запчастями. Они хорошие люди, однако их время ушло. Но капитанский мостик они отдавать другим, людям новым, со свежими мозгами, не собираются. У них всегда наготове тысячи оправдательных аргументов и высший пилотаж, позволяющий либо уйти от ответственности, либо найти стрелочника. Реформам они будут противиться изо всех сил, а лакействующие журналисты вылезут из кожи вон, чтобы убедить общественность, что без спадара "икс", товарища "игрек" и уж тем более без господина "зет" нам грозят мор и глад со светопреставлением. Привыкнув к привилегиям, перебравшиеся из своих райцентров в Минск, многие парламентарии тоже сделают все от них зависящее, чтобы закрыть наглухо форточки нашего дома, где воздух уже застоялся до неприличия.

Но под лежачий камень вода не течет.

На Украине уже определены даты досрочных выборов, российская машина вот-вот тронется в путь, Литва уже сегодня присылает автобус за нашими баскетболистами, поскольку у нас нет бензина, чтобы свозить команду в Каунас. И если мы сегодня еще чем-то отличаемся от наших соседей, то разве тем, что в Беларуси по-прежнему самая организованная во всем мире компартия, что наши парламентарии приглашаются в президиумы таких одиозных собраний, как съезд союза офицеров запаса, чей глава, некий генерал запаса Иванов, недавно патетически восклицал: "Офицеры спрашивают меня, когда выступать?" Это все, конечно, замечательно. Но все это может реально привести лишь к тому, что Беларусь безнадежно отстанет даже от недавних сестер и братьев по СССР, не говоря уже о тех, кто вообще не знает, что такое "социалистический выбор", зато живет в свое удовольствие.

## Официальная таблица

сорокового тиража выигрышей по выигрышным вкладам, состоявшегося 1 октября 1993 года в г.п. Большая Берестовица.

**Выигрыши выпали на следующие номера счетов по выигрышным вкладам во всех учреждениях Сберегательного банка Республики Беларусь**

| Номера счетов | Размер выигрыша в процентах к средней сумме остатка вклада | Номера счетов | Размер выигрыша в процентах к средней сумме остатка вклада |
|---|---|---|---|
| А-012 | Двести пятьдесят | А-522 | Двести пятьдесят |
| А-059 | Одна тысяча | А-566 | Пятьсот |
| А-101 | Двести пятьдесят | А-616 | Двести пятьдесят |
| А-158 | Двести пятьдесят | А-658 | Двести пятьдесят |
| А-184 | Двести пятьдесят | А-703 | Одна тысяча |
| А-230 | Двести пятьдесят | А-742 | Двести пятьдесят |
| А-275 | Двести пятьдесят | А-776 | Двести пятьдесят |
| А-308 | Двести пятьдесят | А-821 | Двести пятьдесят |
| А-351 | Две тысячи | А-858 | Двести пятьдесят |
| А-371 | Двести пятьдесят | А-893 | Двести пятьдесят |
| А-430 | Двести пятьдесят | А-933 | Двести пятьдесят |
| А-442 | Двести пятьдесят | А-999 | Двести пятьдесят |
| А-512 | Пятьсот | | |

**В учреждениях Сберегательного банка, где число счетов более одной тысячи, во всех последующих тысячах выиграли те же номера счетов, что и в первой тысяче, т.е. за N 1012, 2012 и т.д.**

*Факт для роздуму*

## Ці будзе ў Мінску кітайскі рэстаран?

Кітайскія рэстараны ёсць паўсюдна. У буйных еўрапейскіх гарадах іх па некалькі. У Вене аж трыста. Яны адкрываюцца ў Польшчы. Ужо тры ў Вільнюсе. А вось у Мінску ніяк не ўдаецца настойлівым кітайцам прабіць бюракратычную сцяну.

— Ну і парадкі ў вас, — здзіўляюцца яны. — Усё робіцца, каб перашкаджаць працы. Ёсць інструкцыі нават па агню, якім ён павінен быць. Аказваецца, той, на якім рыхтуюць ежу ў Кітаі і на які не звярнулі ўвагу прыдзірлівыя еўрапейцы, на Беларусі... забаронены.

Такі факт усплыў на сустрэчы работнікаў кітайскага пасольства і прадстаўнікоў гэтай краіны па гандлю з актывістамі беларуска-кітайскага таварыства напярэдадні гадавіны КНР у Доме дружбы.

**Сяргей ПЯТРОЎ.**

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні ганаровых званняў групе работнікаў будаўнічых арганізацый рэспублікі

За шматгадовую плённую працу ў галіне капітальнага будаўніцтва прысвоіць ганаровыя званні:

"Заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь"

**АНДРЭЙКАЎЦУ Пятру Дзмітрыевічу** — брыгадзіру цесляроў будаўнічага ўпраўлення N 33, гор. Брэст.

**КРАСУЦКАМУ Льву Мікалаевічу** — намесніку начальніка галоўнага ўпраўлення інвестыцый Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.

**ПІСКОЎСКАМУ Алегу Яўгеньевічу** — старшыні праўлення вытворча-будаўнічага кааператыва "Трэст № 14", гор. Гомель.

**ПЯЧКО Канстанціну Міхайлавічу** — генеральнаму дырэктару праектна-прамыслова-будаўнічага аб'яднання індустрыяльнага домабудавання "Брэстжылбуд".

**ЧАЙЛЫТКУ Льву Львовічу** — генеральнаму дырэктару Мінскага арэнднага прадпрыемства індустрыяльнага домабудавання "Мінскжылбуд".

**ЯНЧЭЎСКАМУ Анатолю Яўгеньевічу** — машыністу бульдозера ўпраўлення механізаваных і спецыяльных работ № 134, гор. Гродна.

"Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь"

**САЎКО Міхаілу Уладзіміравічу** — дырэктару Баранавіцкага камбіната жалезабетонных канструкцый.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г. Мінск.
№ 2515-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні Кузьміна М.М., Ліпеня У.Д. і Труса У.М. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў узнагародзіць Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**КУЗЬМІНА Мікалая Міхайлавіча** — брыгадзіра мазаічнікаў спецыяльнага ўпраўлення № 67 будаўнічага трэста № 1.

**ЛІПЕНЯ Уладзіміра Дзмітрыевіча** — брыгадзіра комплекснай брыгады будаўнічага ўпраўлення № 20 вытворчага прадпрыемства "Мінскпрамбуд".

**ТРУСА Уладзіміра Міхайлавіча** — машыніста экскаватара ўпраўлення механізацыі № 70 трэста № 15 "Спецбуд".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2520-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні Уласко Я.Д. ганаровага звання "Заслужаны работнік сферы абслугоўвання Рэспублікі Беларусь"

За вялікія заслугі ў развіцці і паляпшэнні транспартнага абслугоўвання насельніцтва прысвоіць дырэктару вытворчага аб'яднання гарадскога электрычнага транспарту "Мінскгарэлектратранс" УЛАСКО Яўгену Дзмітрыевічу ганаровае званне "Заслужаны работнік сферы абслугоўвання Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2518-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні Ціхон М.С. Граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За мужнасць і міласэрнасць, праяўленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, узнагародзіць **ЦІХОН Марыю Станіславаўну** Граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2523-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні Чурылы К.І. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За заслугі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці ўзнагародзіць старшыню калгаса "Камунар" Клецкага раёна **ЧУРЫЛУ Канстанціна Іосіфавіча** Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2524-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні групы членаў фізкультурна-спартыўнага таварыства "Дынама" Ганаровай граматай і Граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За дасягненне высокага спартыўнага майстэрства ўзнагародзіць:

**Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Васількоўскую Яніну Віктараўну** — трэнера-выхаваццеля Віцебскай абласной арганізацыі.

**Горлу Станіслава Анатольевіча** — трэнера-выкладчыка Гомельскай абласной арганізацыі.

**Пучко Аляксандра Яўгеньевіча** — трэнера-выкладчыка Магілёўскай абласной арганізацыі.

**Граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Аўсяніка Мечыслава Мікалаевіча** — старшага трэнера-выкладчыка Мінскай абласной арганізацыі.

**Лук'яненка Ларысу Генадзьеўну** — навучэнку Рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерву N 1.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2519-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні Трацяка Ф.І. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За дасягненне высокіх вытворча-эканамічных паказчыкаў і шматгадовую плённую работу ў сельскай гаспадарцы ўзнагародзіць дырэктара саўгаса "Лошыца" Мінскага раёна **ТРАЦЯКА Фелікса Іванавіча** Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2522-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні Лежаню У.І. ганаровага звання "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь"

За значны ўклад у павышэнне эфектыўнасці вытворчасці, рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне галіны, укараненне перадавых тэхналогій і асваенне выпуску новых відаў прадукцыі прысвоіць віцэ-прэзідэнту Беларускага дзяржаўнага вытворча-гандлёвага канцэрна лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці "Беллеспрам" ЛЕЖАНЮ Уладзіміру Іванавічу ганаровае званне "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2517-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні Грыню Б.А. ганаровага звання "Заслужаны работнік фізічнай культуры і спорту Рэспублікі Беларусь"

За значны ўклад у развіццё фізічнай культуры і спорту, высокае прафесійнае майстэрства прысвоіць галоўнаму трэнеру па кулявой стральбе Гродзенскай абласной арганізацыі фізкультурна-спартыўнага таварыства "Дынама" ГРЫНЮ Барысу Адамавічу ганаровае званне "Заслужаны работнік фізічнай культуры і спорту Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2516-XII

*Ракурс*

*Восеньскі матыў.*

**Фота Анатоля ШАРОВА.**

*Крымінал*

## Разбойнікі затрыманы — патрэбны сведкі

**Рэдкі ў крымінальнай практыцы выпадак: спачатку следчыя органы затрымалі з доказамі злачынства дарожных разбойнікаў, а цяпер шукаюць пацярпеўшых.**

Дзве арганізаваныя ўзброеныя групы вясной і летам гэтага года прынеслі нямала непрыемнасцей транзітным вадзіцелям на дарогах беларускага Палесся. Пагражаючы абрэзамі і газавым пісталетам, а ў шэрагу выпадкаў прыкрываючыся міліцэйскай фуражкай, дарожныя піраты спынялі шафёраў, адбіралі ў іх грошы, валюту, абутак, адзенне, радыёапаратуру і іншыя каштоўныя рэчы.

Следства ўстанавіла, што разбойныя напады ўчыняліся на дарогах Калінкавіцкага, Петрыкаўскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Ельскага раёнаў. Ёсць меркаванні, што за гэтымі баявымі групамі водзіцца нямала і іншых грахоў, таму следчае ўпраўленне УУС Гомельскага аблвыканкама просіць сведак і пацярпеўшых на дарогах Палесся паведаміць аб гэтым у міліцыю.

**Віктар КОТАЎ.**
**Белінфарм.**

*г.Гомель.*

*Дазвольце з вамі не пагадзіцца*

## Сёмы прыезд Мёлера,

### альбо Доказ тэарэмы, якая красамоўна абвяргае афіцыйны пункт погляду

Нас у Еўропе ніхто не чакае.

Гэты выраз раз за разам злятае з самых высокіх афіцыйных вуснаў. Але ці так яно на самай справе?

Не і не, даказваюць шматлікія факты, якія прагучалі на чарговым пасяджэнні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. На ім прысутнічалі госці з Германіі, у тым ліку першы сакратар таварыства "Захад—Усход" зямлі Шлезвіг-Гальштэйн Ганс-Фрыдрых Мёлер. "Амаль на ўсіх сустрэчах у нас пытаюць, калі прыедуць з Беларусі спевакі, мастакі, бізнесмены". Яму не хапіла паўгадзіны, каб пералічыць праекты па супрацоўніцтву, якія прапаноўвае нямецкі бок. І гэта толькі з адной зямлі!

Аб перспектывах супрацоўніцтва гаварылі старшыня таварыства дружбы Арсен Ваніцкі, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, народны дэпутат рэспублікі Валянцін Голубеў. У плане толькі на чацвёрты квартал сёлетняга года гэтай грамадскай арганізацыі запланавана каля дзесяці важных сумесных беларуска-нямецкіх мерапрыемстваў.

А ўлады нам даказваюць, нібы ў Еўропе Беларусь не чакаюць...

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

*Хроніка*

## Настальгія па "Піратах"

**Дабрачынную акцыю вырашылі правесці рэспубліканскі клуб творчай інтэлігенцыі "На ростанях"" і мінскі Дом ветэранаў.**

З паказу кінакамедыі І.Гараўца "Паветраныя піраты" ў Доме ветэранаў пачне дзейнічаць клуб "Кінанастальгія", які дасць магчымасць пажылым людзям беларускай сталіцы паглядзець старыя фільмы, што палюбіліся ім, з удзелам зорак айчыннага і зарубежнага кінематографа.

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, дабрачынныя сеансы для ветэранаў вайны і працы будуць праходзіць у Мінску рэгулярна.

## Паліўны крызіс павінна была вырашыць...

**Праз магазін паспрабавалі вырашыць паліўны крызіс мясцовыя ўлады Рагачова.**

У камерцыйным гандлі яны прадавалі бутэльку гарэлкі за 2100 расійскіх рублёў, а вырučаныя грошы ішлі на закупку бензіну ў суседзяў. Аднак добрае, здавалася б, пачынанне развіцця, на жаль, не атрымала. Спачатку ўмяшалася мясцовая пракуратура, а затым і ў вышэйшых эшалонах улады пацвердзілі, што такімі грашовымі аперацыямі можа займацца толькі Нацыянальны банк рэспублікі.

## Ікона гасцявала ў вернікаў

**У гасцях у вернікаў Гродзенскай каталіцкай епархіі пабывала цудатворная ікона Боскай маці, якая звычайна захоўваецца ў кафедральным храме ў пасёлку Будслаў Мядзельскага раёна.**

Акрамя абласнога цэнтра ікону прымалі прыхаджане ў касцёлах Свіслацкага, Бераставіцкага і іншых раёнаў. У час богаслужэнняў яны праслухалі пропаведзі святчэннікаў-місіянераў, якія суправаджалі цудатворную ікону. Да гэтага царкоўная рэліквія пабывала ў многіх храмах Пінскай епархіі.

## Аб Гарэцкім, і не толькі

**Да 110-й гадавіны з дня нараджэння Максіма Гарэцкага прымеркавана літаратурная выстаўка, якая адкрылася ў памяшканні Бераставіцкай раённай бібліятэкі.**

Тут прадстаўлены многія творы пісьменніка, у тым ліку выдадзеныя пры яго жыцці, а таксама ўспаміны сучаснікаў, газетныя і часопісныя публікацыі. Частка матэрыялаў выстаўкі, якая атрымала назву "Пра Беларусь і беларусаў", расказвае аб жыцці і творчасці Уладзіслава Сыракомлі, Наталлі Арсеньевай, Ніны Мацяш і іншых маладаследаваных літаратараў.

**Белінфарм.**

